СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 6.20, 19.57, 13.37;
Віцебск — 6.08, 19.50, 13.42;
Магілёў — 6.09, 18.47, 13.38;
Гомель — 6.11, 19.39, 13.28;
Гродна — 6.37, 20.10, 13.33;
Брэст — 6.39, 20.10, 13.31.
МЕСЯЦ:
Маладзік
28 жніўня
ІМЯНІНЫ:
Фадзея, Васы, Аўрама



# ЗВЯЗДА

3 ВЕРАСНЯ 1992 г.
ЧАЦВЕР, № 177 (21955)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ХЛЕБА ЗІМОЙ ХОПІЦЬ. БУЛЬБЫ І АГАРОДНІНЫ — ХТО ВЕДАЕ?

**У гэтым годзе збожжавыя культуры былі пасеяны на плошчы 2.456 тысяч гектараў, што на 48 тысяч гектараў менш, чым у мінулым годзе. Разам з тым ураджайнасць збожжа ў 1992 годзе склала 31 цэнтнер з гектара, а ў мінулым — толькі 28,6 цэнтнера з гектара. Па стану на 31 жніўня валавы збор збожжавых склаў 7.539,5 тысячы тон (на 10 працэнтаў больш, чым у 1991).**

Калі добры ўраджай збожжавых сёлета парадаваў хлебаробаў, то справы з «другім хлебам» — бульбай — пакуль толькі пакідаюць надзею на лепшае. Паводле даных спецыялістаў Дзяржкамстата, ураджайнасць бульбы ў гэтым годзе на 23 цэнтнеры з гектара меншая, чым у мінулым. Па апошніх звестках, накапана ў 1992 годзе толькі 21,4 тысячы тон, а ў мінулым жа годзе ў гэты час было 24,4 тысячы. Лідзіруе ва ўборцы бульбы Мінская вобласць, дзе накапана 6,7 тысячы тон. А вось калгасы і саўгасы Віцебскай вобласці, дзе накапана на сённяшні дзень толькі 0,6 тысячы тон, адстаюць.

Што датычыцца агародніны, то тут справы такія ж бязрадасныя, як і з бульбай. Ураджайнасць агародніны ў 1992 годзе склала 83 цэнтнеры з гектара, у мінулым жа — 90 цэнтнераў. На 31 жніўня 1992 года было сабрана 20,4 тысячы тон агародніны, а па стану на 2 верасня 1991 года — 29,5. Так што, як відаць з лічбаў, у гэтым годзе ўраджаю «другога хлеба» і агародніны з-за спякотнага лета беларусы недабяруць.

Не сталі чакаць павышэння закупачных цэн калгасы і саўгасы рэспублікі. Калі ў 1991 годзе было закуплена 999,6 тысячы тон збожжавых, то ў гэтым — 1.550,8 тысячы тон, пры заданні 2.000 тысячы тон. Праўда, зернебабовыя і сёння яшчэ паступаюць у дзяржаўныя засекі. Планы па закупках азімага збожжа перавышаны (пры плане 1.000 паступіла 1.165 тысяч тон). А вось што датычыцца ячменю і аўса, то тут пакуль усё ідзе не так, як было запланавана. Пры планавым заданні закупкі 800 тысяч тон ячменю закуплена пакуль толькі 319,1 тысячы тон, аўса — адпаведна 200 і 44 тысячы тон.

Перавысілі ўсе прагнозы закупкі садавіны і ягад. Калі параўноўваць з мінулым годам сёлетнія закупкі, то атрымліваецца, што ў 1992 годзе закуплена на 7.109 тысяч тон садавіны і ягад больш.

Дрэнная ўраджайнасць агародніны адбілася і на закупках. У 1991 годзе на 26 жніўня было закуплена 55 тысяч тон агародніны, у гэтым па стану на 31 жніўня — толькі 47,6.

**Падрыхтаваў Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### ЧАРГОВАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ ПАЧНЕЦЦА 20 КАСТРЫЧНІКА

**2 верасня 1992 года адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. На пасяджэнні разгледжаны шэраг пытанняў, у тым ліку:**

**Аб скліканні X сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12 склікання.**

**Аб пытаннях палітычнай эміграцыі.**

**Аб тэрмінах завяршэння работы па рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій.**

**Аб устанаўленні велічыні даплат да службовых акладаў работнікам судоў за кваліфікацыйныя класы.**

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета пастанавіў склікаць X сесію Вярхоўнага Савета 12 склікання 20 кастрычніка 1992 года ў г. Мінску.**

**(БЕЛІНФАРМ).**

### НАВУКОЎЦЫ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

**МІНСК. Акадэмія навук Беларусі, Рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў АНБ, Беларускі эканамічны саюз, выдавецтва «Навука і тэхніка», таварыства генетыкаў і селекцыянераў РБ, Беларуская політэхнічная акадэмія, Мінская прамысловая біржа вытворцаў, Мазырскае нафтаперапрацоўчае аб'яднанне, Мінскі медінстытут, Беларускі інстытут удасканалення ўрачоў і Гомельскі медінстытут выступілі заснавальнікамі дабрачыннага фонду сацыяльнай абароны навукоўцаў «АСАНА». Фонд будзе займацца прававой і матэрыяльнай абаронай навукоўцаў, ствараць банкі новых ідэй, распрацовак і тэхналогій, развіваць на Беларусі ўсе навуковыя напрамкі і ўкараняць дасягненні навукі ў практыку, распаўсюджваць і папулярызаваць веды, развіваць міжнародныя сувязі.**

### ЖЫЦЦЁ Ў ДАПРЫЗЫЎНІКОЎ, МАГЧЫМА, ЗМЕНІЦЦА

Да пачатку новага навучальнага года міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Валерый Гайсёнак і міністр абароны РБ Павел Казлоўскі прымеркавалі сумесны загад, які карэнным чынам змяняе сутнасць і напрамкі дапрызыўнай падрыхтоўкі ў школах. Згодна з ім зроблена адпаведная палёгка і ваенрукам, якім будуць плаціць за 18 гадзін у тыдзень і якім можна будзе весці іншыя школьныя прадметы. У цэлым жа ўдакладненне гэтага загада адбудзецца пасля чакаемага прыняцця на восеньскай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Закона аб воінскай павіннасці».

### «ПЕСНЯЙ ВІТАЮ Я ВАС!..»

**Дню ведаў і 90-годдзю пачатку педагагічнай дзейнасці Якуба Коласа было прысвечана гарадское свята «Песняй вітаю я вас!..», якое прайшло 1 верасня ў Мінску на плошчы, што носіць імя песняра.**

**Перад удзельнікамі свята выступілі беларускія паэты, а таксама сын Коласа — Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч, гучалі вершы. Народныя мелодыі выконваў ансамбль «Гармонікі».**

**НА ЗДЫМКУ: выступае ансамбль «Гармонікі».**



## РАДЫЁ ФАКТ

З 27 па 30 жніўня ў польскім горадзе Сопаце праходзіў XXIX міжнародны песенны фестываль «Сопат-92». Упершыню ў гісторыі беларускай эстрады ў ім прымаў удзел малады беларускі спявак Андрэй Хлястоў. І ўпершыню беларускі выканаўца заняў чацвёртае месца, увайшоўшы ў пяцёрку найлепшых.

***

**Цікавы феномен кнігалюбства зарэгістраваны ў Жлобіне. Адзін чалавек, які не меў пастаяннага месца жыхарства, на працягу года звяртаўся ў розныя бібліятэкі горада і браў, быццам для чытання, самыя дэфіцытныя выданні. Назбіраўшы калекцыю з 26 кніг, што карыстаюцца найбольшым попытам, «бібліяман» бясследна знік са Жлобіна, пакінуўшы ні з чым даверлівых работнікаў бібліятэк.**

***

«Аб'явіць вайну» спікеру парламента Расійскай Федэрацыі Руслану Хасбулатаву мае намер 3 верасня на прэс-канферэнцыі кааліцыя парламенцкіх фракцый «Рэформа». На думку дэпутата фракцыі «Дэмрасія» Льва Панамарова, існуе небяспека ўзурпацыі ўлады з боку спікера. «Хасбулатаў замяніў дэпутатаў экспертамі і, ажыццяўляючы аднаасобна заканадаўчую ўладу, умешваецца ў справы выканаўчай улады», — сказаў дэпутат.

Разам з тым Панамароў разлічвае на тое, што «Руслан Імранавіч, глянуўшы на свае дзеянні, як гаворыцца, збоку, можа, зразумее, што пара добраахвотна ісці ў адстаўку».

***

**Вядомы расійскі бізнесмен, кіраўнік фірмы «Аліса» Герман Сцерлігаў абвінавіў ЦРУ ў спробах вярбоўкі расійскіх бізнесменаў. Ён заявіў пра гэта ў адкрытым пісьме паслу Злучаных Штатаў Амерыкі ў Маскве Роберту Страусу. Прычынай для гэтага паслання паслужылі спробы амерыканскага дыпламата Давіда Уілдона завербаваць кіраўніка «Алісы» і двух яго супрацоўнікаў. Пасля адмовы, піша Герман Сцерлігаў амерыканскаму паслу, у фірмы «Аліса» пачаліся праблемы з афармленнем уязных віз у ЗША.**

***

Новы від паслуг пачаў аказваць Хабараўскі акцыянерна-камерцыйны банк «Бізон-капітал». Заплаціўшы пяць тысяч рублёў, грамадзянін можа быць спакойны — у выпадку яго смерці банк аплаціць усе расходы на пахаванне.

«Бізон-капітал» заключыў дагаворы з адпаведнымі рытуальнымі службамі і цалкам аплаціць расходы на пахаванне, агароджу магілы, сціплыя памінкі і (па жаданню кліента) аркестр.

На новы від банкаўскіх паслуг адазваліся не толькі старыя гараджане, якія не могуць захаваць ад інфляцыі запаветную суму на пахаванне, але і буйныя прамысловыя прадпрыемствы са шматтысячнымі калектывамі — заводам таксама праводзіць у апошні шлях сваіх ветэранаў становіцца дорага, і яны, заключыўшы дагавор з «Бізон-капіталам», страхуюцца ад празмерных расходаў і клопатаў.

***

**Сабрат вядомай шатландскай лох-нескай пачвары жыве ў адным з азёр на поўдні Сібіры. Мясцовыя жыхары-бураты называюць яго «гаспадаром тутэйшых вод — драконам Луусудай». Сведкі з'яўлення гэтай істоты сцвярджаюць, што дракон мае тры галавы і рыбін хвост. У гэтым годзе яго бачылі ўжо два разы, калі ён падымаўся з глыбінь возера на яго паверхню.**

***

У нідэрландскім горадзе Брэда пад кіраўніцтвам мясцовага бургамістра адбылася цырымонія заключэння шлюбу сусветна вядомага клоуна Алега Папова, які гастралюе з Маскоўскім цыркам у Галандыі, і 29-гадовай цыркавой артысткі з Германіі Габрыэлы Леман. Будучыя муж і жонка пазнаёміліся два гады назад у нямецкім горадзе Гейдэмбергу, дзе тады выступаў Папоў.

ЯК МЫ ШУКАЕМ НАФТУ...

# ХТО Ў ЦЮМЕНІ ГАСПАДАР?

### ВЯДОМА, РАСІЙСКІЯ НАФТАВІКІ. АЛЕ ЯНЫ ГАТОВЫ ЎЗЯЦЬ У СААЎТАРЫ БЕЛАРУСКІХ СПАЖЫЎЦОЎ

**Указы прэзідэнтаў для нашай хворай эканомікі часам зусім не ўказ. Спачатку была дамоўленасць, што Расія паставіць Беларусі ў гэтым годзе 25 мільёнаў тон нафты па фіксаваных цэнах і 5 мільёнаў — па дагаворных. На справе захаваць прапорцыю не ўдалося. І па колькасці таксама. У першым квартале расіяне яшчэ адносна лёгка выканалі свае абавязацельствы, а ў другім, хоць і стараліся, не дадалі больш за мільён тон нафты-сырцу.**

**У ходзе ліпеньскага падпісання пакета пагадненняў паміж Расіяй і Беларуссю ўрады дзяржаў зноў вярнуліся да тэмы энергапаставак. Канчатковы вынік перагавораў такі: у трэцім квартале Расійская Федэрацыя абавязалася паставіць нам 5,5 мільёна тон «чорнага золата», столькі ж і ў чацвёртым. Беларусь у сваю чаргу таксама ўзяла на сябе рад абавязацельстваў адносна нафтаздабываючых раёнаў — па пастаўках прадукцыі вытворчага прызначэння, прадуктаў па стабільных цэнах.**

**У жніўні прапорцыі зноў пахіснуліся. На абодва нашы НПЗ працягваюць ісці тэлетайпаграмы, у якіх нафтаздабытчыкі Цюмені, Сургута, Нафтаюганска, іншых «пунктаў» Заходняй Сібіры просяць павялічыць аплату да 6, 8, а часам і да 17 тысяч рублёў за тону (да гэтага часу ў сярэднім выходзіла 2816 рублёў). Многіх азадачыў графік паставак, што нарадзіўся ў Мінпаліўэнерга Расіі, які паставіў пад сумненне і саму новую квоту ў 5,5 мільёна тон. Згодна з гэтым дакументам яна можа зменшыцца, як мінімум, у два разы. Што ж адбылося?**

— Дакладней, працягвае адбывацца, — адказвае намеснік старшыні Дзяржэканомплана Беларусі Аляксей Боршч. — Як сведчаць апублікаваныя ў расійскай прэсе зводкі, па-ранейшаму зніжаецца сярэднясутачная здабыча газу і нафты. Але калі ў першым выпадку гэта больш звязана з сезонным попытам на блакітнае паліва, то спад вытворчасці нафты многія эканамісты расцэньваюць як абвальны — 90 працэнтаў нафтаздабываючых прадпрыемстваў не выйшлі ў першым паўгоддзі на ўзровень мінулага года. Адна з прычын у тым, што вырваліся на свабоду і імкліва панесліся ўверх цэны на трубы, буравое і іншае патрэбнае ім абсталяванне. Так што просьбы і патрабаванні нашых партнёраў — гэта не поза багача або дыктатара-манапаліста. Хутчэй здзіўленне бедняка, якому не зразумела, чаму толькі з адной рэспублікай ён павінен гандляваць са стратай для сябе, тады як, напрыклад, Украіна або Прыбалтыка бяруць яго тавар па 6—8 тысяч рублёў за тону і не наракаюць.

**— З сітуацыяй, відаць, прыйдзецца лічыцца. Але што застаецца нам: пісаць пісьмы расійскаму ўраду з просьбамі забяспечыць выкананне пагаднення, слаць ганцоў з бартэрнымі дарамі непасрэдна да нафтаздабытчыкаў (раптам спакусяцца) або плаціць, колькі запросяць?**

— Вядома ж, пішам, таму што плаціць дорага не можам. Па стану на 28 ліпеня доўг заводаў-спажыўцоў нашаму Дзяржкамнафтапрадукту склаў 6 мільярдаў рублёў. Ён, у сваю чаргу, таксама запазычыў нафтаперапрацоўшчыкам 2,9 мільярда і яшчэ 3,6 — Нацыянальнаму банку па крэдытах. Увядзенне клірынгавых разлікаў паміж Расіяй і Беларуссю на астатні перыяд года ў многім вырашыць гэту праблему. Але без падстрахоўкі, відаць, не абысціся. Таму мы з усіх бакоў разгледзелі і варыянт з бартэрнымі, як вы сказалі, дарамі — пачалі рыхтаваць глебу для прамога доўгатэрміновага супрацоўніцтва, каб дзейнічаць не толькі на ўзроўні формулы «ты — мне, я — табе», але і з цягам часу ўвайсці да нафтаздабытчыкаў у долю. Многія нашы спецыялісты, кіраўнікі прадпрыемстваў і ведамстваў пабывалі на прадпрыемствах Цюменшчыны і падпісалі цэлы рад дагавораў яшчэ і на гэтым узроўні. У абмен на стабільнасць паставак Беларусь абавязалася сваімі сіламі, але за кошт заказчыка пабудаваць у гэтым рэгіёне 50 тысяч квадратных метраў жылля, 60 кіламетраў дарог, іншыя аб'екты. Гэта толькі ў бягучым годзе, а пачынаючы з наступнага будзем штогод узводзіць там па 60 тысяч квадратных метраў жылля і пракладваць 86 кіламетраў дарог. Прычым не толькі ў Лангепасе, за які раней афіцыяльна адказвала наша рэспубліка, але і ў іншых месцах. А самае галоўнае, што мы дагаварыліся, і дагавор гэты адобраны абодвума ўрадамі, стварыць некалькі сумесных прадпрыемстваў (канцэрнаў, акцыянерных таварыстваў) па здабычы, перапрацоўцы, транспарціроўцы і рэалізацыі нафты. За гэтым крокам вялікая будучыня. Сёння ж мы пасіўныя пакупнікі, а значыць, людзі залежныя. Стаўшы саўладальнікамі пэўнай часткі нафтапромыслаў і актыўнымі інвестарамі, атрымаем якасна іншыя правы.

**— Хто з нашага боку выказаў жаданне супрацоўнічаць у такіх СП?**

— Вытворчае аб'яднанне «Нафтан» (гэта цяперашняя назва Наваполацкага НПЗ), Мазырскі НПЗ, Міністэрства дарожнага будаўніцтва, Дзяржкамнафтапрадукт, аб'яднанне «Беларуснафта», карпарацыя «Белбуд». Выходзілі са спецыфікі кожнай такой вытворчасці і яе патрэбнасцей у тых ці іншых службах і структурах.

**— Ва ўмовах дэфіцыту энергарэсурсаў наша экстэнсіўнае іх спажыванне, як і недасканалая тэхналогія перапрацоўкі нафты, у роўнай ступені і бяда і віна. Выхад светлых прадуктаў складае ўсяго каля 50 працэнтаў, мазут наш экалагічна намнога бруднейшы, чым імпартны... Рэканструкцыя ж і ў больш спрыяльныя часы была недаступнай. Але, можа, паявілася хоць бы надзея зрабіць гэта хоць калі-небудзь у будучыні?**

— Паявілася, і не ў такой ужо далёкай. Крэдыты і перадавыя тэхналогіі, з дапамогай якіх можна паглыбіць перапрацоўку нафты да 92—96 працэнтаў, нам згодны прадаставіць ФРГ, Францыя, Італія, ЗША. Вызначыліся ўжо некаторыя канкрэтныя фірмы, гатовыя працаваць з нашымі НПЗ. Але сам адбор праектаў будзе весціся на конкурснай аснове. Акрамя таго, ёсць дагаворанасць з Расгазканцэрнам. У гэтым годзе — аб павелічэнні паставак газу, за кошт чаго рэспубліка зможа закончыць перавод Лукомскай ДРЭС на гэты від паліва і некалькі знізіць патрэбнасць у мазуце. А ў перспектыве — аб будаўніцтве праз нашу тэрыторыю магутнага экспартнага газаправода, адводы ад якога пойдуць і да беларускіх спажыўцоў. Так што нашы энергетыкі маюць шанц выканаць даўно намечанае: давесці спажыванне газу ў галіне да 60 працэнтаў, а 40 — пакінуць мазуту. Пакуль гэтыя лічбы стаяць наадварот.

**— Вернемся да цэн, Аляксей Апанасавіч. Калі частку нафты прыйдзецца аплачваць па камерцыйных «законах», то, відаць, трэба чакаць у хуткім часе павышэння цэн і на яе вытворныя — той жа мазут, бензін, розную хімічную сыравіну?**

— На сённяшні дзень прапорцыі такія: каля 80 працэнтаў фіксаваныя цэны, 20 ці крыху больш — камерцыйныя. Якімі будуць, зыходзячы з рэальнасці, суадносіны заўтра, прадказаць не бяруся. Эканамічная сітуацыя ў нафтавікоў, сапраўды, складаная. Але ж у нас таксама. Значыць, яшчэ патаргуемся. Пакуль жа спецыялісты ўзважваюць рэаліі, падлічваюць, як адаб'юцца на эканоміцы рэспублікі і цэнах гэтыя суадносіны, калі яны зменяцца ў той ці іншы бок. У горшым выпадку — ён, дарэчы, найменш магчымы — можна чакаць 24—25-працэнтнага павышэння кошту энерганосьбітаў. Але, паўтараю, яшчэ патаргуемся.

**Ганна ГЛАДЫШАВА. (Белінфарм).**

... І ЯК ЯЕ ВЫКАРЫСТОЎВАЕМ

# Зрабі людзям «дабро», яны табе адплацяць

### Падрабязнасці справы аб дызпаліве для фірмы «Лідо»

**Цікавая інфармацыя прагучала 2 верасня ў «Радыёфакце». Нібыта 23 тысячы тон дызпаліва з Уфы (Башкартастан) нехта спрабуе пераправіць у Латвію праз тэрыторыю Беларусі. І Беларусь, выходзіць, адыгрывае ролю перавалачнай базы для камерцыйных аперацый адной з прыбалтыйскіх рэспублік. А гэта не так могуць зразумець нашы партнёры на ўсход ад Оршы. Словам, з мэтай высвятлення абставін мы правялі сваё расследаванне.**

І вось што ў наяўнасці. Сапраўды, 3 жніўня г. г. намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкома А. Г. Каралёў, з аднаго боку, і прадстаўнік фірмы «Лідо» (г. Рыга) Г. А. Кірсанс, з другога, заключылі дагавор. Цытую: «Выканком садзейнічае ў афармленні юрыдычных дакументаў на адпраўку 23 тысяч тон дызпаліва, якое адпраўлена з Башкартастана (г. Уфа) у адрас фірмы «Лідо».

«За аказаныя паслугі, — цытую далей, — фірма «Лідо» абавязваецца паставіць вобласці фірменнае зерне з разліку за тону дызпаліва 1,2 тоны па цане 12,5 тысячы рублёў за тону». Такім чынам, спадар Каралёў проста меў намер здзейсніць высакародны ўчынак (дарэчы, зараз ён на гэта і напірае, бо больш няма на што).

Але вось якая непрыгожая атрымліваецца справа. Расія не мае пагаднення з Латвіяй і таму пастаўкі нафты ці паліва напрамую ажыццяўляць не збіраецца. Расія сама вырашае: каму пастаўляць, каму — не. Латвія — трэцяя краіна, таму фірма «Лідо» павінна была мець на сваіх дакументах адзнаку расійскай мытні. А яе, як вы разумееце, не было. «Ноу праблем», — сказаў спадар Каралёў, падпісаўшы дагавор з «Лідо». Я магу зразумець пана Кірсанса, ён камерсант. Тое, што ён вырашыў выкарыстаць Віцебск у якасці «трampліна» — у парадку рэчаў. Але нельга зразумець А. Г. Каралёва, у кампетэнцыю якога падобныя пытанні не ўваходзяць.

На сённяшні дзень у Віцебску стаяць першыя 96 цыстэрнаў з дызпалівам (каля 7 тысяч тон). Мытня праверыла дакументы і завярнула паліва назад. Гэтым, здавалася б, пытанне вычарпана. Але ўмяшалася трэцяя сіла ў асобе намесніка старшыні Дзяржкамнафтапрадукта В. П. Заранка.

І свет убачыў «Дагавор на пастаўку дызельнага паліва» ад 14 жніўня г. г., падпісаны Заранком і ўжо вядомым Кірсансам. Тут тое самае, што і ў першым дагаворы: «пакупнік» арганізуе пастаўку дызпаліва з Башкартастана ў Беларусь. Але разлік ужо іншы, рублямі. Дзяржкамітэт купляе паліва па прэйскуранту (5.022 руб. за тону), а прадае яго «Лідо» па 6.498 рублёў за тону. 20 працэнтаў ад аб'ёму паліва застаецца ў Беларусі. На першы погляд, таксама выгадная для нас справа.

21 жніўня дырэктару Наваполацкага прадпрыемства па пастаўцы нафтапрадуктаў Ю. М. Лугаўцову накіроўваецца ліцэнзія № 02-1129 ад 21.08.92 г. да дагавору № 8 Дзяржкамнафтапрадукта ад 14.08.92 г. Цытую: «У адпаведнасці з ліцэнзіяй адпампоўвайце па трубаправоду Наваполацк — Даўгаўпілс 6 тысяч тон дызпаліва. Намеснік старшыні В. П. Заранок».

Такім чынам, «высакародную справу», пачатую спадаром Каралёвым, паспяхова прадоўжыў спадар Заранок.

Цяпер вернемся да пытання аб выгаднасці дагавораў (і, першага, і другога). Дазволю сабе нагадаць, што існуе пагадненне паміж краінамі СНД аб транзітах. Цытаваць больш не буду, а сутнасць яго такая: краіна, якая ўваходзіць у СНД, мае права прапускаць грузы ў краіны, якія не ўваходзяць у састаў Садружнасці, толькі пры наяўнасці правільна аформленых мытных дакументаў. Інакш кажучы, каб Расія дамовілася з Латвіяй аб пастаўцы гэтых 23 тысяч тон дызпаліва, ніхто не стаў бы яго затрымліваць у Віцебску. Словам, ёсць дагавор і яго проста трэба выконваць. У процілеглым выпадку вынікі могуць быць самымі адмоўнымі.

Па-першае, Расія можа залічыць гэта дызпаліва ў абавязковую квоту. Нічога не маю супраць Латвіі, але яна паліва атрымала б, а мы — не. З-за «дабрыні» асобных чыноўнікаў.

Па-другое, «старэйшы брат» зусім законна можа спытаць: а чым вы там займаецеся і чаму мае месца рээкспарт расійскай прадукцыі, калі ёсць дамоўленасць, якая гэта забараняе? Вывады расіяне могуць зрабіць такія: партнёр ненадзейны, веры яму няма. А значыць, анулюем ільготныя цэны на паліва ці наогул «закрыем кран». Спадзяюся, да гэтага не дойдзе, але чаму такі варыянт развіцця падзей не можа быць прааналізаваны?

Я звязаўся па тэлефоне з Віцебскай аблпракуратурай і папрасіў пракаменціраваць сітуацыю А. В. Тарасава, пракурора па нагляду.

— Уласна, падстаў для канфіскацыі дызпаліва няма, — паведаміў Аляксандр Васільевіч. — Усё ж дагавор паміж «Лідо» і Віцебскім аблвыканкомам ёсць. І мы павінны яго ўлічваць. Адзінае, што застаецца, — адправіць дызпаліва па першаму адрасу — Башкартастан.

— Як вы ацэньваеце дзеянні Каралёва з пункту погляду закона?

— Зараз праводзіцца праверка для вырашэння пытання аб прыцягненні Каралёва да адміністрацыйнай адказнасці за незаконную выдачу дазволу на вываз дызпаліва ў Рэспубліку Латвія. Меру гэтай адказнасці будзе вырашаць суд.

Вось такія справы. Дарэчы, яны яшчэ далёка не завершаны. Як мне паведамілі ў адной паважанай установе, пан Кірсанс з'явіўся ў Мінску. Відаць, ён не губляе надзеі на паспяховы для «Лідо» зыход. Ну што ж, буду шчырым: пажадаць яму поспеху не магу.

Мае субяседнікі, якія дапамаглі дайсці да ісціны, занадта не распаўсюджваліся, але скарыстаю сваё права і задам некаторыя, на мой погляд, цікавыя пытанні. Напрыклад: з якой нагоды А. Г. Каралёў пайшоў на кантакт з «Лідо»? За гэтым было толькі шчырае жаданне дапамагчы вобласці з зернем ці што яшчэ? Якім чынам пан Кірсанс выйшаў на В. Г. Заранка? Зноў жа, чаму паміж імі так хутка з'явілася ўзаемаразуменне? Заўважце, я нічога не сцвярджаю, я толькі стаўлю пытанні. І спадзяюся, што хтосьці дасць на іх адказ.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

### ВОГНЕНЕБЯСПЕЧНАЯ НЯДБАЙНАСЦЬ

**На пасяджэнні Камісіі Савета Міністраў Беларусі па надзвычайных сітуацыях было заслухана пытанне «Аб пажарнай абстаноўцы на тэрыторыі рэспублікі і неадкладных мерах па забеспячэнню проціпажарнай бяспекі».**

Члены камісіі адзначылі, што ў апошнія дні з-за нядбайнасці некаторых кіраўнікоў, недысцыплінаванасці асобных грамадзян узніклі новыя ачагі пажараў. Пад пагрозай аказаліся некаторыя населеныя пункты Мінскай, Гомельскай, Брэсцкай і Віцебскай абласцей. Міністэрства лясной гаспадаркі не змагло арганізаваць аператыўнае тушэнне лясных пажараў у Ганцавіцкім раёне. Нездавальняюча працуе канцэрн «Белпаліўгаз» па ліквідацыі пажараў на замацаваных за ім тэрыторыях.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

## ЗВАРОТ

**Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны да жыхароў Беларусі — падпісчыкаў перыядычных рэспубліканскіх выданняў**

Шаноўныя грамадзяне!

Пачалася падпіска на перыядычныя выданні, якая кожнага жыхара Беларусі паставіла перад праблемай выбару — што выпісаць на наступны, 1993 год. Рост цэн на газеты і часопісы не дазволіць выпісаць шмат выданняў, і свой выбар давядзецца абмежаваць. У сувязі з гэтым хочам звярнуць вашу ўвагу на выданні, чый уклад у нацыянальнае адраджэнне Беларусі асабліва значны.

Штодзённая беларуская рэспубліканская газета «Звязда» за апошні час стала адной з найбольш аўтарытэтных у Беларусі; на высокім прафесіянальным узроўні яна выносіць на свае старонкі багатую аб'ектыўную інфармацыю па самых разнастайных пытаннях і можа задаволіць сваім зместам строга патрабавальнага чытача. Добра зарэкамендавала сябе ў якасці штотыднёвіка «Чырвоная змена», паабяцаўшы змяніць назву, яна не зменіцца ў галоўным — будзе і надалей весці цікавую, змястоўную размову з моладдзю Беларусі. «Голас Радзімы», як і раней, будзе інфармаваць беларусаў за межамі краіны пра няпростае жыццё рэспублікі. Не толькі пытанні літаратуры і мастацтва знойдуць адлюстраванне на старонках «ЛіМа» — выдання, якое набыло аўтарытэт публікацыяй вострапубліцыстычных артыкулаў і допісаў. Разнастайныя матэрыялы па праблемах развіцця і культуры беларускай мовы прачытаюць падпісчыкі газеты «Наша слова». Настаўніцтва Беларусі шмат цікавага і карыснага для сваёй працы знойдзе на старонках «Настаўніцкай газеты».

Гэтыя выданні, а таксама «Культура», «Дзеці і мы», «Наша ніва», «Наша доля», «Піянер Беларусі» і іншыя несумненна дапамогуць чытачу зарыентавацца ў складаных праблемах духоўнага, культурнага і палітычнага жыцця нашага грамадства, стаць на грунт свядомай патрыятычнай дзейнасці ва ўмовах станаўлення незалежнай беларускай дзяржавы.

З новымі творамі беларускіх празаікаў, паэтаў, драматургаў, публіцыстаў, крытыкаў пазнаёмяць чытача часопісы «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Спадчына», «Вожык». Розныя пытанні развіцця культуры, мастацтва, адукацыі, навукі, экалогіі будуць шырока асвятляць часопісы «Адукацыя і выхаванне», «Народная асвета», «Роднае слова», «Мастацтва», «Родная прырода», «Беларуская мінуўшчына», «Беларускі гістарычны часопіс». Пра жыццё і справы дзятвы будуць расказваць беларускія часопісы «Вясёлка», «Бярозка», «Пралеска»; пра клопаты жанчын — часопіс «Работніца і сялянка».

Мы звяртаемся з заклікам да ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь, каму дарагая родная зямля, наша Бацькаўшчына, Прыгожае, мілагучнае беларускае слова — выпісвайце і прапагандуйце названыя выданні. Яны паглыбяць вашы веды пра родную краіну і дапамогуць яшчэ мацней палюбіць яе. Ваша падтрымка беларускіх газет і часопісаў паслужыць высакароднай справе нацыянальнага адраджэння Беларусі.

### НАЦБАНК УПАЎНАВАЖАНЫ ЗАЯВІЦЬ

Зусім нядаўна расійскія «Весці» паспяшаліся паведаміць, што ў Нацыянальным банку рэспублікі будзе працаваць амерыканскі банкір Джэдэры Мілікан, які два месяцы супрацоўнічаў па кантракту са Знешэканомбанкам Беларусі. Беларускія банкіры паведамілі нашаму карэспандэнту, што гэтая інфармацыя не зусім дакладная.

Так, Мілікан сапраўды працаваў у Знешэканомбанку РБ восем тыдняў. Па індывідуальнаму кантракту, як вопытны банкір, які шмат часу правёў у вядучых банках развітых краін. І цяпер, калі кантракт скончыўся, магчыма, будзе працаваць саветнікам у якім-небудзь банку Беларусі, але неабавязкова ў Нацыянальным.

Як паведаміў кіраўнік Нацыянальнага банка рэспублікі Станіслаў Багданкевіч, гэта «інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці». Кандыдатура амерыканца нават не разглядалася. Верагодна, замежны прадстаўнік у галоўным банку рэспублікі ўсё ж будзе. Гэта спадар Жак Бусьер з Нацыянальнага банка Канады, які будзе прадстаўляць Міжнародны валютны фонд, што прафінансуе свайго прадстаўніка. З 10 па 16 верасня павінны адбыцца перагаворы з канадскім банкірам, на якіх плануецца канчаткова вырашыць яго паўнамоцтвы.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# РОЗГАЛАС

## ГРАНІ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**ШЧУЧЫН. Ужо 8 мільёнаў рублёў атрымана ў горадзе за прыватызуемыя грамадзянамі кватэры. А вось 90 кватэр перададзена льготным катэгорыям насельніцтва, у асноўным пенсіянерам і інвалідам, бясплатна.**

## ЦІ БЫЦЬ МУЗЕЮ МЕДЫЦЫНЫ?

СВІСЛАЧ. Сапраўды «напалеонаўскія» планы апанавалі ўлады гэтага невялікага гарадка. З цягам часу тут плануецца адкрыць музей гісторыі медыцыны. Праўда, спачатку для гэтага трэба адрэстаўрыраваць былы будынак гімназіі, дзе зараз знаходзіцца шпіталь. Зноў-такі ўсё ўпіраецца ў банальнае: намер добры, але ці хопіць сродкаў?

## ЗАКОН — ДЛЯ ЎСІХ

**ПІНСК. Нягледзячы на забарону палявання на ўсёй тэрыторыі рэспублікі ў сувязі з пажаранебяспечным становішчам, Пінскі райвыканком дазволіў адстрэл качак у адным з лясных масіваў раёна. Мясцовыя эколагі выказалі пратэст супраць незаконных дзеянняў улады.**

## НОВЫ ГОД — У НОВАЙ ШКОЛЕ

ГРОДНА. З новага навучальнага года ў Гродна адкрылася новая, 33-я сярэдняя школа, якая разлічана на 1.296 месцаў. Да 1 студзеня 1993 года плануецца адкрыць яшчэ адну, 34-ю школу. Усяго ж на тэрыторыі Беларусі зараз адбылося наваселле ў 42 школах.

## КУДЫ ДЗЯВАЕЦЦА ПАПЕРА ДЛЯ ПАДРУЧНІКАЎ?

Перад пачаткам навучальнага года ў мінскай школе № 38 сабраліся настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, а таксама беларускамоўных класаў з усяго Фрунзенскага раёна. Мэта сустрэчы ставілася даволі сур'ёзная: прааналізаваць вынікі работы педагагічных калектываў школ па выкананню Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і выйсці з канкрэтнымі прапановамі да Міністэрства адукацыі, гарадскога ўпраўлення адукацыі, навуковых супрацоўнікаў ВНУ, выдавецтваў і іншых зацікаўленых бакоў. Ініцыятарамі сустрэчы сталі рана, раённая рада Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» і раённая рада Таварыства беларускай мовы, прадстаўнікі якіх таксама прысутнічалі.

Размова адразу пайшла аб набалелым. Настаўнікі і ў гэтым годзе аказаліся ў цяжкім становішчы. Не хапае падручнікаў на беларускай мове, асабліва па матэматыцы, фізіцы, геаграфіі, гісторыі і інш. Недастаткова дыдактычнага матэрыялу — табліц, дапаможнікаў для дыктовак, дыяфільмаў.

— Куды дзяваецца папера для друкавання падручнікаў? Няўжо Міністэрства адукацыі не ў сілах пракантраляваць такую важную справу? — абвінавачвалі выкладчыкі сваіх апекуноў.

Яны прызнавалі, што і самім неабходна больш працаваць, каб мець нейкія вынікі. Яшчэ не ўсюды створаны беларускамоўныя гурткі для бацькоў. Ды і ўрокі трэба праводзіць з большай фантазіяй і самаадданасцю, імкнуцца выкладаць іх на роднай мове. У гэтым сэнсе многае хутчэй залежыць ад ВНУ — менавіта яны закліканы рыхтаваць настаўнікаў, якія добра валодаюць родным словам.

## БІБЛІЯТЭКІ «ПАМІРАЮЦЬ» ПЕРШЫМІ

**ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. Рынак не церпіць цялячых пяшчот, а ўсё больш жорстка дыктуе свае ўмовы — няўмольныя і катэгарычныя. Толькі за апошні час у вобласці спынілі сваё існаванне 78 клубаў, 44 бібліятэкі, 4 музычныя школы, шэраг кінаўстановак. Спадзеючыся толькі на літасць спонсараў, сёння наўрад ці доўга працягнеш. Вось ужо сапраўды: хочаш жыць — умей круціцца.**

## АДГУКНІЦЕСЯ, СПОНСАРЫ!

**Чавускі раённы камітэт Таварыства Чырвонага Крыжа Магілёўскай вобласці звяртаецца да кіраўнікоў буйных дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў, кіраўнікоў камерцыйных структур, усіх грамадзян з просьбай аб выдзяленні СКВ для пратэзіравання ніжніх канечнасцей за мяжой двум маладым інвалідам: С. А. Міхайлаву і Г. М. Ягораву.**

**Просьба да спонсараў звяртацца на адрас: 213200, Магілёўская вобл., г. Чавусы, вул. Кругавая, 53, райком Чырвонага Крыжа. Тэлефон: (02242) 2-23-06.**

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### НАШЫ АБОРТЫ — НА КАРЫСЦЬ ЗАХОДНІМ ПАРФУМЕРАМ

Мала хто ведае, што «плацэнта», або дзіцячае месца (тое, што застаецца пасля абортаў і нараджэння дзяцей) з'яўляецца адным з самых каштоўных кампанентаў у касметычных і парфумерных сродках самых вядомых фірм свету. Адзін кілаграм плацэнты, набытай у краінах СНД, каштуе прыкладна 1,5 долара. Так, толькі з аднаго Санкт-Пецярбурга яе кожны дзень вывозіцца ў Францыю каля тоны.

### ЗЛАЧЫННАСЦЬ НЕ ВЕДАЕ МЕЖАЎ!

**У адзін з РАУС Астрахані ноччу прыйшоў не вядомы мясцовым міліцыянерам Баброў і пачаў упрошваць, каб яго пакінулі на «адседцы» ў Расіі. Як высветлілася, ён збег з ВПУ г. Грознага. Яшчэ двое ўцекачоў з месцаў зняволення ў Чэчні самі з'явіліся ў міліцыю з просьбай аб тым жа: «Дайце адседзець у Расіі».**

### ПАШТАЛЬЁН—ПРАФЕСІЯ НЕБЯСПЕЧНАЯ

У Табольску паўстала пытанне бяспекі мясцовых паштальёнаў. Многія з жанчын баяцца разносіць па дамах пенсіі: хадзіць па горадзе з поўнай сумкай грошай небяспечна. Мясцовыя ўлады збіраюцца дамовіцца з гарадскім аддзелам унутраных спраў аб тым, каб у дні выдачы пенсій кожнага паштальёна суправаджаў супрацоўнік міліцыі.

### А САМІ МЫШЭЙ НЕ ЛОВІМ!

**У Польшчы на «чорным рынку» з'явілася вялізная колькасць мышаловак, якія прывозяць сюды разам з іншым таварам «турысты» з СНД.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

● Лідэр парламента Абхазіі падверг рэзкай крытыцы рашэнне пракуратуры Расіі ўзбудзіць крымінальную справу супраць Канфедэрацыі горскіх народаў. «Гэта тое ж самае, што і праследваць добраахвотнікаў, якія змагаліся ў Іспаніі, — сказаў ён.

● **Арменія і Азербайджан ускладаюць адзін на аднаго адказнасць за зрыў перамір'я, якое працягвалася ўсяго адзін дзень.**

● Невядома месцазнаходжанне прэзідэнта Таджыкістана Набіева і яго сям'і. Ёсць паведамленні, што ён спрабаваў атрымаць палітычнае прыстанішча ў Расіі. Захоплены новы заложнік — мэр Душанбе Мірзоеў.

● **Японія яшчэ раз адзначыла, што ўрэгуляванне тэрытарыяльных спрэчак адкрыла б шлях да буйнамаштабнай дапамогі Расіі.**

● За мінулыя суткі ў Босніі ў ходзе баёў забіта 20 чалавек. Мусульманскія фарміраванні зноў паспрабавалі прарваць сербскую блакаду і панеслі цяжкія страты. Паранены пяцёра салдат міратворчых сіл ААН.

### «БІ-БІ-СІ»

● **Грузінскія войскі, як паведамляюць з Тбілісі, падвергліся ракетнаму абстрэлу з боку расійскіх войск. У выніку загінула некалькі чалавек. Міністэрства абароны Расіі адвергла гэтыя абвінавачанні. Шэварднадзе адзначыў, што пад пагрозай апынулася яго магчымая сустрэча з Ельцыным.**

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

● Расія пацвердзіла, што накіравала ваенны процілодачны карабель і дапаможны танкер для падтрымкі міжнародных сіл у Персідскім заліве.

● **Узброеныя прадстаўнікі апазіцыі працягваюць утрымліваць у сваіх руках рэзідэнцыю прэзідэнта Таджыкістана, якую яны ўзялі штурмам. Каля 30 членаў урада і супрацоўнікаў апарату, у тым ліку і тры віцэ-прэзідэнты Таджыкістана, затрыманы ў якасці заложнікаў.**

● Б. Ельцын пагадзіўся стаць пасрэднікам у перагаворах паміж малдаванамі і рускамоўным насельніцтвам Прыднястроўя. У ходзе гэтага канфлікту і баёў, якія працягваліся пяць месяцаў, загінула больш як 500 чалавек.

● **На шляху паміж Прагай і Брно аўтамабіль вядомага палітычнага дзеяча Дубчака страціў кіраванне і трапіў у кювет. У цяжкім непрытомным стане яго даставілі ў бальніцу. Дубчаку 70 гадоў, у яго зламаны пазваночнік.**

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

● Былы чэмпіён свету па шахматах Фішэр заявіў, што пакіне без увагі папярэджанне ўрада ЗША і пачне заўтра матч са Спаскім на адным з астравоў былой Югаславіі. Урад ЗША забараніў Фішэру пачынаць там матч у сувязі з міжнароднымі санкцыямі супраць Сербіі.

● **Абнародаваны новыя факты буйных крадзяжоў міжнароднай харчовай гуманітарнай дапамогі ў Самалі. Мясцовая мафія гандлюе ёю на «чорным рынку». А тым часам людзі, у якіх няма грошай, вараць дубленыя шкуры і ядуць карэнне раслін.**

● КНР выдварылі за межы краіны амерыканскага спецыяліста і эксперта па кітайскіх праблемах Тэрэла, які знаходзіўся там у якасці турыста, за дзеянні, не сумяшчальныя з яго статусам. Тэрэл аказаў падтрымку дысідэнту Шэнь Тону. Таксама выдвараны два французскія журналісты, якія суправаджалі Шэнь Тона, сам дысідэнт арыштаваны.

● **ЗША заклапочаны тым, што Расія не выканала абяцанне спыніць інтэнсіўныя работы ў галіне распрацоўкі біялагічнай зброі. Нягледзячы на напамінак, Расія не прадставіла доказаў спынення гэтых работ. Высокапастаўлены савецкі перабежчык прадаставіў інфармацыю ЗША аб тым, што СССР парушаў пагадненні аб забароне біялагічнай зброі.**

## interfax ИНТЕРФАКС

### УСЕ ВЯЛІКІЯ ГАРАДЫ РАСІІ КАНТРАЛЮЮЦЦА НАРКАДЗЯЛКАМІ

Спажывецкі рынак наркотыкаў у Расіі дастаткова развіты і пашыраецца, заявіў на брыфінгу ў Маскве нам. начальніча ўпраўлення па незаконнаму абароту наркотыкаў МУС Аркадзь Кузняцоў. Паводле яго даных, усе вялікія гарады Расіі ў рознай ступені кантралююцца арганізаванай злачыннасцю, якая займаецца наркабізнесам.

Па ацэнках экспертаў, іх штогадовы даход складае недзе каля 8 мільярдаў рублёў. Пры гэтым найбольш уплывовымі і небяспечнымі з'яўляюцца азербайджанскія, чэчэнскія і цыганскія кланы.

Апошнім часам усё больш выразна праяўляецца тэндэнцыя стварэння міжрэгіянальных злачынных груп, прычым з іх фарміраваннем у межах былога СССР робяцца спробы выхаду на міжнародную арэну. Па звестках А. Кузняцова, нядаўна Расію наведалі эмісары Медэльінскага картэля, які ўзначальвае вядомы наркакароль Пабла.

### КАНФЕДЭРАЦЫЯ ГОРСКІХ НАРОДАЎ КАЎКАЗА НЕ ПРЫЗНАЕ ЮРЫСДЫКЦЫІ НАД САБОЙ ПРАКУРАТУРЫ РАСІІ

**Прэзідэнт Канфедэрацыі горскіх народаў Каўказа Юрый Шанібаў заявіў, што КГНК не прызнае юрысдыкцыі над сабой Пракуратуры Расіі, якая ўзбудзіла супраць арганізацыі крымінальную справу, абвінаваціўшы яе ў неканстытуцыйных дзеяннях у адносінах да Грузіі. Ю. Шанібаў выступіў у панядзелак па чэчэнскім тэлебачанні.**

**Па словах прэзідэнта, цяпер колькасць добраахвотнікаў Канфедэрацыі, гатовых выступіць у Абхазіі супраць грузінскіх войск, складае каля 5 тысяч. Некаторыя з іх яшчэ на шляху ў Абхазію. Ю. Шанібаў паведаміў аб вялікіх сумах, сабраных у дапамогу Абхазіі. Толькі ў адной Кабардзе, па яго словах, сабрана 8 млн. рублёў. Аднак, урад гэтай рэспублікі, адзначыў Ю. Шанібаў, перашкаджае перапраўцы гэтых грошай у Абхазію.**

### МЗС РЫХТУЕ СУСТРЭЧУ ПРЭЗІДЭНТА ЕЛЬЦЫНА З КІРАЎНІЦТВАМ ГРУЗІІ І АБХАЗІІ

Як стала вядома «Інтэрфаксу», расійскі МЗС заканчвае распрацоўку цэлай серыі прапаноў, накіраваных на спыненне агню ў Абхазіі і раз'яднанне працiборствуючых бакоў, да намечаных на 3 верасня ў Маскве перагавораў па Абхазіі кіраўнікоў Расіі, Грузіі і Абхазіі.

Паводле даных «Інтэрфакса», гаворка, у прыватнасці, ідзе аб праекце пагаднення, аб прынцыпах урэгулявання. Намячаюцца таксама месцы магчымай дыслакацыі воінскіх падраздзяленняў, якім, у выпадку дасягнення пагадненняў, трэба ўзяць на сябе міратворчую місію.

З другога боку, крыніцы, якія прадаставілі інфармацыю, выказалі неўразуменне наконт таго факта, што з моманту пачатку ўзброенага канфлікту Абхазія практычна стала месцам паломніцтва многіх палітычных і грамадскіх дзеячаў Расіі. Ніхто не ставіць пад сумненне, што яны кіруюцца самымі добрымі намерамі, але часта, хочуць яны гэтага або не, іх дзеянні прыводзяць толькі да далейшага росту ўзброенага процістаяння, адзначылі яны.

### ЕЛЬЦЫН ВЫКЛЮЧАЕ ВІНУ РАСІЙСКІХ ВОЙСК У АБСТРЭЛЕ ГРУЗІНСКІХ, УПЭЎНЕНЫ НАКОНТ СУСТРЭЧЫ Ў МАСКВЕ

**Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын катэгарычна абверг магчымасць удзелу расійскіх войск у абстрэле грузінскіх войск у Абхазіі. У кароткім эксклюзіўным інтэрв'ю спецыяльнаму карэспандэнту «Інтэрфакса» Вячаславу Цераxаву ён заявіў, што не бачыць пагрозы сустрэчы з грузінскім лідэрам Эдуардам Шэварднадзе. Да гэтага Шэварднадзе папярэдзіў, што, калі пацвердзіцца факт абстрэлу, то перагаворы ў Маскве 3 верасня не адбудуцца.**

**«Сёння раніцай я размаўляў па тэлефоне з Шэварднадзе. Сапраўды, у Гудауце было нападзенне на млынзавод, аднак расійскія войскі там не ўдзельнічалі. Я перакананы, што сустрэча з Эдуардам Шэварднадзе 3 верасня ў Маскве адбудзецца», — заявіў расійскі Прэзідэнт.**

### КАНСТАНЦІНОПАЛЬСКІ ПАТРЫЯРХ ПАДТРЫМАЎ РАШЭННЕ РУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ АБ ЗНЯЦЦІ САНА З МІТРАПАЛІТА ФІЛАРЭТА (ДЗЕНІСЕНКІ)

Патрыярх Канстанцінопальскі Варфаламей I накіраваў пісьмо ў Маскоўскі патрыярхат, у якім падтрымаў рашэнне архірэйскага сабора Рускай праваслаўнай царквы аб зняцці з былога прадстаяцеля Украінскай праваслаўнай царквы мітрапаліта Філарэта (Дзенісенкі) свяшчэннага сана за раскольніцкую дзейнасць.

Як паведаміў аддзел знешніх царкоўных зносін Маскоўскага патрыярхата, у пісьме, у прыватнасці, гаворыцца, што «Канстанцінопальская царква, прызнаючы паўнату выключнай у гэтым пытанні кампетэнцыі Рускай царквы, прымае сабарнае рашэнне апошняй па гэтай праблеме».

Былы мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Украіны Філарэт (Дзенісенка) быў зняты са сваёй пасады саборам украінскіх епіскапаў 27 мая гэтага года. На гэтым жа саборы кіраўніком УПЦ быў выбраны мітрапаліт Уладзімір (Сабадан). 11 чэрвеня судом архірэйскага сабора Рускай праваслаўнай царквы з удзелам практычна ўсяго ўкраінскага епіскапата мітрапаліт Філарэт быў пазбаўлены ступеняў свяшчэнства.

# М. ГАРБАЧОЎ: „МАРАЛЬНАЯ ПЕРАМОГА ЗАСТАЛАСЯ ЗА МНОЙ"

**Яшчэ год таму назад вышэй за яго быў толькі Гасподзь Бог. І калі гэты чалавек гаварыў пра сябе (звычайна ў трэцяй асобе), у ягоным голасе чулася непадробная павага. Нават у тыя тры дні ў Фаросе ён быў Прэзідэнтам з вялікай літары. Сёння ён ужо экс-прэзідэнт—адзіны наш першы чалавек дзяржавы, што пакінуў Крэмль сваёй хадой, а не лежачы на лафеце. Што можа адчуваць ён, які быў усім, а стаў, яшчэ не памёршы, гісторыяй! Злосць, крыўду, прагу рэваншу? А можа, наадварот,—палёгку?**

**Мажліва, яго апошняя кніга хоць у некаторай ступені адкажа на гэта пытанне...**

## ДА ЧЫТАЧА

За апошнія тыдні я прачытаў шмат артыкулаў пра снежаньскія падзеі 1991 года — разважлівых і абвінаваўчых, аргументаваных і бяздоказных, бясстрасных і гнеўных. У іх шмат сказана праўдзівага. Але яшчэ больш надуманага ці прыдуманага. Але, канешне, мяне больш за ўсё цікавіла пазіцыя аўтараў. Я разумею, што не так проста меркаваць пра падзеі, гледзячы на іх з боку ці, наадварот, апынуўшыся моцна ў іх уцягнутым. Але дакопвацца, дабірацца да сутнасці трэба.

Я хачу прадставіць сваю пазіцыю ў ходзе снежаньскіх падзей, таму што для большай часткі грамадзян яна засталася невядомай. Мае аргументы многіх не задавальнялі. Таму, насуперак правілам галоснасці, выступленні ці замоўчваліся, ці скарачаліся да непазнавальнасці. Тэлебачанне было больш шчодрым. Але яго інфармацыя па сваім характары не захоўвае ўстойлівае і поўнае ўяўленне, тым больш па пытаннях складаных і спрэчных. Друк жа, асабліва масавы, аддаваў перавагу ўражанням журналістаў ад сустрэч са мной, а не зместу таго, што я гаварыў па сутнасці пытанняў, што тады вырашаліся.

У кнізе мая пазіцыя паказана ў тым выглядзе, у якім яна была заяўлена ў тыя снежаньскія дні і тыдні, а не асучасненая і скарэкціраваная з улікам падзей ужо гэтага года.

Пасля роздуму я выбраў менавіта такі спосаб выказаць сваю ацэнку таго, што здарылася ў снежні. І раблю так тым больш таму, што многія, на кім ляжыць адказнасць за прынятыя ў тыя дні рашэнні, цяпер вельмі ўжо імкнуцца «прыхарашыцца», апраўдаць свае снежаньскія пазіцыі.

Могуць сказаць, што поезд пайшоў, пасля бойкі кулакамі не размахваюць, навошта цяпер выказаныя тады думкі і трывогі. Не згодзен. Працэс трансфармацыі Саюза ў іншыя формы яшчэ толькі разгортваецца, наперадзе самыя цяжкія і адказныя рашэнні. І аналіз снежаньскіх падзей, пазіцый іх удзельнікаў многае можа даць для разумення таго, што больш за ўсё патрэбна цяпер і ў будучыні народам, якія жывуць разам сотні гадоў.

## I. СНЕЖАНЬСКІ ВЫБАР: НОВАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ЎТВАРЭННЕ ЦІ РАСПАД КРАІНЫ?

**Прэлюдыя.** Жнівеньскі путч сарваў працэс фарміравання новых саюзных адносін паміж суверэннымі дзяржавамі, ускладніў і падагнаў дэзінтэграцыю — ужо не толькі дзяржавы, але і грамадства. Разумеючы ўсю небяспеку новай сітуацыі для дэмакратычных пераўтварэнняў, аднаўленне работы над Саюзным дагаворам я разглядаў як самы галоўны прыярытэт. Гэтым вызначаліся ўсе мае дзеянні ў ходзе надзвычайнай сесіі Вярхоўнага Савета СССР, скліканай адразу пасля путчу і прыняўшай рашэнне аб неадкладным правядзенні нечарговага З'езда народных дэпутатаў СССР. Ён адкрыўся 2 верасня.

Пры ўсёй драматычнасці ўласнага становішча з'езд не мог не адчуваць, у якім стане знаходзіцца грамадства. Не ўсё на з'ездзе з пункту погляду дэмакратыі праходзіла так ужо чыста і гладка, але патрабаваць гэтага было проста нерэальна. Менавіта там сфарміраваліся асноўныя пазіцыі: Саюзны дагавор патрэбны, Эканамічны дагавор неабходны. Былі зафіксаваны палажэнні аб адзіных узброеных сілах, аб захаванні міжнародных абавязацельстваў, аб агульнай скаардынаванай знешняй палітыцы.

Пасля вострай, бурнай дыскусіі з'езд прыняў пакет рашэнняў, якія вызначаюць задачы пераходнага перыяду, уключаючы канстытуцыйны Закон аб дзяржаўных органах Саюза у гэты перыяд. Для ўзгодненага вырашэння пытанняў унутранай і знешняй палітыкі, якія закранаюць агульныя інтарэсы рэспублік, быў створаны Дзяржаўны савет у саставе Прэзідэнта СССР і вышэйшых службовых асоб рэспублік.

Практычна адразу ж пачалася распрацоўка новай рэдакцыі праекта Саюзнага дагавора. 10 верасня адбылася сустрэча з Б. М. Ельцыным, на якой мы абмеркавалі звязаныя з гэтым праблемы. 16 верасня пытанне аб будучыні Саюза разглядалася на пасяджэнні Дзяржсавета, прычым восем рэспублік (РСФСР, Беларусь, Узбекістан, Казахстан, Туркменістан, Азербайджан, Таджыкістан, Кыргызстан) занялі тады пазітыўную пазіцыю.

Большасць былых саюзных рэспублік прыняла ўдзел у распрацоўцы Дагавора аб эканамічным супольніцтве.

Да гэтага часу перагледжаны праект Саюзнага дагавора ўжо знаходзіўся на разглядзе членаў Дзяржсавета. Было вырашана звярнуцца да Вярхоўнага Савета Украіны з заклікам уключыцца ў падрыхтоўку новага дагавора.

Такім чынам, у выніку ўпартых намаганняў і сумеснай напружанай працы ўдалося аднавіць нова-агароўскі працэс, вярнуць яго на кругі свае. Напружана працавалі эксперты. Выйшлі на адзін праект, на другі, і 14 лістапада ў Нова-Агарове зноў сабраўся Дзяржсавет. Дзень быў цяжкі і плённы. Разгарнулася вострая дыскусія. Спрэчка ішла па цэнтральнаму пытанню: што ў нас будзе — саюзная дзяржава ці саюз дзяржаў? Можа здацца: спрэчка чыста слоўная, але за ёй стаяла пытанне аб тым, ці будзе ў нас адна краіна, ці мы раздзелімся на некалькі дзяржаў, з усімі адсюль вынікамі для грамадзян, эканомікі, навукі, Узброеных Сіл, знешняй палітыкі і г. д.

Чатыры гадзіны мы дыскуціравалі аб тым, што ж патрэбна гэтаму свету народаў, што насяляюць вялізную краіну? Іншая, абноўленая, рэфармаваная саюзная дзяржава, але дзяржава, ці гэта павінен быць Саюз, але ў нейкай іншай, недзяржаўнай форме, ці Садружнасць — гэтыя паняцці былі прадметам дэталёвай дыскусіі. Яна завяршылася тым, што ўсе мы прыйшлі да высновы: гэта павінна быць канфедэратыўная саюзная дзяржава. Тут жа, у Нова-Агарове, на прэс-канферэнцыі ўсе кіраўнікі рэспублік выйшлі да тэлеаб'ектываў і выказалі сваю пазіцыю.

**Пазіцыя Расіі. Барыс Ельцын:** Цяжка сказаць, якая колькасць дзяржаў увойдзе ў Саюз, але ў мяне цвёрдае перакананне, што Саюз будзе.

**Казахстан. Нурсултан Назарбаеў:** Рэспубліка заўсёды стаяла за захаванне Саюза, безумоўна, не таго, які быў, а за саюз, які рэальна сёння існуе, гэта саюз суверэнных дзяржаў — самастойных і раўнапраўных. Я на гэтай пазіцыі стаю, выказваючы меркаванне большасці насельніцтва Казахстана. Які будзе гэты саюз у канчатковым выніку — канфедэратыўным ці нейкім іншым, пакажа будучыня.

**Беларусь. Станіслаў Шушкевіч:** Па майму перакананню, верагоднасць утварэння новага Саюза істотна ўзрасла. Я думаю, Саюз будзе.

**Кыргызстан. Аскар Акаеў:** Далучаюся да калег. Я поўны ўпэўненасці — Саюз будзе.

**Туркменістан. Сахат Мурадаў** (Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі): На пасяджэнні Вярхоўнага Савета, што адбылося гэтымі днямі, усе дэпутаты выказаліся за тое, каб наша рэспубліка была ў саставе Саюза Суверэнных Дзяржаў.

**Таджыкістан. Акбаршо Іскандараў** (намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета): Наша рэспубліка з самага пачатку была за Саюз. Пасля сённяшняга пасяджэння з'явілася ўпэўненасць, што ён будзе.

**Апошняе пасяджэнне Дзяржсавета.** 25 лістапада Дзяржсавет зноў сабраўся ў Нова-Агарове. Пра вынікі гэтага пасяджэння я тут жа паведаміў на прэс-канферэнцыі.

Пра гэтае апошняе пасяджэнне Дзяржсавета мне давялося зноў даволі падрабязна расказваць прадстаўнікам прэсы 12 снежня, ужо пасля мінскай сустрэчы.

Напярэдадні рэферэндуму на Украіне сітуацыя хутка мянялася. Я зноў і зноў спасылаўся на дамоўленасць з сямю рэспублікамі, што адбылася 14 лістапада 1991 года, прыводзіў аргументы на карысць саюзнай канфедэратыўнай дзяржавы. Дыскусія дайшла да такога напалу, што я сказаў: добра—я паважаю вашу пазіцыю, але згадзіцца не магу. І пайшоў да сябе ў кабінет, прадаставіўшы калегам зрабіць выбар без мяне.

Праз нейкі час да мяне прыйшлі Ельцын і Шушкевіч. Прынеслі праект рашэння Дзяржсавета адносна праекта Саюзнага дагавора, у прынцыпе—у тым выглядзе, у якім ён быў узгоднены 14 числа. Там, як вядома, размова ішла пра тое, што Саюз Суверэнных Дзяржаў —гэта канфедэратыўная дэмакратычная дзяржава. Я ўнёс свае заўвагі ў праект рашэння, Ельцын і Шушкевіч згадзіліся, мы вярнуліся ў залу пасяджэнняў, працягвалі абмеркаванне, рэдакцыйную работу над праектам рашэння Дзяржсавета. Потым усе распісаліся. У гэтым рашэнні было сказана: «...накіраваць распрацаваны Дзяржсаветам Дагавор на адабрэнне парламентаў», маючы на ўвазе потым, пасля гэтай працэдуры, канчаткова падпісаць Дагавор.

Вось, уласна, такі шлях быў пройдзены...

Такім чынам, да «ўкраінскага феномена» склалася разуменне, што будзе канфедэратыўная дзяржава з адзінымі Узброенымі Сіламі, агульным рынкам, узгодненай знешняй палітыкай, агульнымі валютай, банкаўскім саюзам, энергетыкай, касмічнай дзейнасцю, транспартам і сувяззю, г.зн. з усімі тымі сферамі, дзе Саюз працуе для ўсіх.

Таму, калі ў мінскай заяве гаворыцца, што дагаворны працэс зайшоў у тупік, я пытаюся: хто ў тупіку? Восем жа рэспублік гатовы былі падпісаць Саюзны дагавор, у парламентах пачаліся абмеркаванні. У мяне на стале было ўжо заключэнне аднаго з камітэтаў расійскага парламента, які падтрымаў Дагавор і нават прапанаваў, што ў Саюзе неабходна мець Канстытуцыю, чаго ў праекце не прадугледжвалася. У тупіку Украіна? Ну дык давайце не будзем усе ў гэты тупік ірвацца, а выцягнем Украіну, знойдзем спосабы.

Б. М. Ельцын пастаянна ў мяне пытаўся: як Вы можаце забяспечыць удзел Украіны ў Саюзным дагаворы? Мой адказ: калі Расія і іншыя рэспублікі падпішуць яго, Украіна знойдзе сваё месца. Калі б яна не захацела быць поўным членам, магла б спачатку стаць членам абароннага саюза. Пра гэта ж Краўчук гаварыў, калі быў кандыдатам у прэзідэнты, ва ўсякім выпадку, у адносінах да стратэгічных узбраенняў. Украіна ўжо была ўдзельнікам Эканамічнага дагавора. Падпісалі б пагадненне аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве і іншыя. Наогул, можна было б уявіць сабе дыферэнцыраваныя сувязі паміж Украінай і Саюзам. Гэта пытанне часу, пошуку.

Павінен, аднак, прызнацца, што дыскусіі і наогул тое, што адбылося на Дзяржсавеце 25 лістапада, пакінулі ў мяне на душы цяжкі асадак. Мне здалося, што не дарэмна Б. М. Ельцын, адкінуўшы нашу дамоўленасць па галоўных пытаннях новага Дагавора, раптам публічна выцягнуў на свет Божы тэзісы з мінулага, што разбуралі ўзгодненыя палажэнні.

Пасля ўкраінскага рэферэндуму працэс стварэння новага Саюза збочыў са сваёй каляіны. Канешне, пазіцыя ўкраінскага кіраўніцтва адыграла сваю ролю. І неўзабаве пасля мінскіх і алма-ацінскіх пагадненняў задума адкрылася цалкам. Але істотна важна і тое, што ўкраінскі феномен быў выкарыстаны кіраўніцтвам Расіі, каб дабіць ідэю Саюза.

**(Працяг будзе).**

## ФУТБОЛ: ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ-92

# «Дынама» зноў наверсе

**Другі чэмпіянат рэспублікі нагадвае чымсьці пераменнае надвор'е. Што ні тур — новы лідэр. Каманды не паспяваюць мяняцца месцамі. Калі ў папярэднім першынстве Беларусі ўсё было ясна практычна з першых гульняў, то цяпер наўрад ці хто адважыцца спрагназіраваць будучага чэмпіёна.**

**У лідэры пасля чарговага тура зноў выйшлі чэмпіёны рэспублікі. Дынамаўцы пасля нічыёй у Старых Дарогах экзаменавалі аўтсайдэра першынства — жодзінскі «БелАЗ».**

**Не сумняваюся, што сто працэнтаў беларускіх балельшчыкаў «паставілі» на гаспадароў поля, якія, прынамсі, не пакінулі гасцям ніякіх шанцаў. 5:0 на карысць мінчан.**

**Нечакана для многіх унічыю згуляў на сваім полі «КІМ». Віцябляне не змаглі адолець сталічную «Беларусь» — 1:1. Наогул, у гэтым туры мінскія каманды ўзялі пяць ачкоў з шасці. Апошнія з іх, тарпедаўцы, абыгралі ў гасцях «Хімік» — 2:0. Прычым, гродзенцы да гэтай гульні не страцілі на сваім полі ніводнага ачка.**

**Зноў прыемна здзівіў «Гомсельмаш». У Магілёве ён заключыў «міравую» з мясцовымі аўтазаводцамі — 0:0.**

**Чарговы пройгрыш запісаў на свой рахунак «Абутнік». Лідчане дома ўступілі салігорскаму «Шахцёру» — 0:1. А самым папулярным у туры быў лік 2:0.**

**Прычым у двух матчах гаспадары поля перамаглі гасцей («Трактар» — «Днепр», «Металург» — «Будаўнік»), у адной гульні ўступілі: «Ведрыч» — віцебскаму «Лакаматыву».**

### АРЫФМЕТЫКА ТУРА І ЧЭМПІЯНАТУ

**Забіта 16 мячоў. Сярэдняя выніковасць — 2 галы за гульню. Усяго ў чэмпіянаце варатары 113 разоў даставалі мячы з сеткі. Сярэдняя выніковасць — 2,13.**

**Рэкардсменам па наведванню стаў стадыён у Бабруйску. На матчы «Трактара» з «Дняпром» прысутнічала 6.500 гледачоў.**

**У туры было назначана два пенальці. Адзін з іх не быў рэалізаваны. З пачатку першынства суддзі 17 разоў указвалі на 11-метровую адзнаку. Толькі 14 удараў дасягнулі мэты.**

**Першае ачко страціў віцебскі «КІМ», але ён па-ранейшаму застаецца патэнцыяльным лідэрам. Спіс бамбардзіраў з чатырма мячамі, як і раней узначальваюць тры футбалісты: С. Гоцманаў («Дынама», Мн.), Ю. Лагуноў («Лакаматыў») і А. Юсіпец («Гомсельмаш»).**

**СЕМ ІГРАКОЎ МАЮЦЬ НА СВАІМ РАХУНКУ НА ГОЛ МЕНШ.**

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА ПАСЛЯ 7 ТУРАЎ**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. «Дынама» (Мн) | 6 | 4 | 2 | 0 | 18- 5 | 10 |
| 2. «Тарпеда» (Мг) | 7 | 3 | 4 | 0 | 8- 2 | 10 |
| 3. «Дынама» (Бр) | 6 | 4 | 1 | 1 | 5- 1 | 9 |
| 4. «Беларусь» | 6 | 3 | 2 | 1 | 6- 3 | 8 |
| 5. «Трактар» | 7 | 2 | 4 | 1 | 5- 2 | 8 |
| 6. «КІМ» | 4 | 3 | 1 | 0 | 9- 2 | 7 |
| 7. «Шахцёр» | 6 | 3 | 1 | 2 | 6- 6 | 7 |
| 8. «Лакаматыў» | 7 | 2 | 3 | 2 | 12-11 | 7 |
| 9. «Хімік» | 7 | 2 | 3 | 2 | 5- 7 | 7 |
| 10. «Металург» | 7 | 2 | 2 | 3 | 11-12 | 6 |
| 11. «Гомсельмаш» | 6 | 2 | 2 | 2 | 6- 7 | 6 |
| 12. «Днепр» | 7 | 2 | 2 | 3 | 6-10 | 6 |
| 13. «Тарпеда» (Мн) | 6 | 1 | 4 | 1 | 7- 7 | 6 |
| 14. «Ведрыч» | 5 | 2 | 1 | 2 | 4- 4 | 5 |
| 15. «Будаўнік» | 6 | 1 | 1 | 4 | 4- 8 | 3 |
| 16. «Абутнік» | 6 | 0 | 1 | 4 | 2-10 | 1 |
| 17. «БелАЗ» | 7 | 0 | 0 | 7 | 1-18 | 0 |

**Наступны тур адбудзецца 6 верасня. Безумоўна, цэнтральным будзе матч у Брэсце, дзе мясцовае «Дынама» прымае сваіх аднаклубнікаў з Мінска.**

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## Сканер: слова замежнае— хваробы нашы

ГРОДНА. Цэментны завод у Краснасельскім на сродкі ад прыбыткаў набыў так званы «сканер» — адзіны на сённяшні дзень у СНД апарат для ультрагукавога абследавання ўнутраных органаў. А нашы медыкі зараз вучацца працаваць на гэтым сканеры пад кіраўніцтвам амерыканскай спецыялісткі М. Фрэнтан.

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

### МАЛЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ

На сённяшні дзень у Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 5 тысяч малых прадпрыемстваў, большая частка якіх дзейнічае ў галіне пасрэдніцтва, прамысловасці, будаўніцтва і навукі. Агульны кошт выпрабленай імі прадукцыі і паслуг склаў 10 мільярдаў рублёў, у тым ліку для насельніцтва — 2,3 мільярда рублёў.

### ШЛЮБЫ З ІНШАЗЕМЦАМІ

**У 1990 годзе толькі ў адным Мінску было зарэгістравана 187 шлюбаў з іншаземцамі, у 1991 — ужо 208, а за 7 месяцаў бягучага года — 101 шлюб. Летась у «лідэрах» былі афганцы (21 шлюб за год), палякі (18) і кубінцы (16), а ў гэтым годзе — ізраільцяне (10 шлюбаў за 7 месяцаў) і афганцы (9).**

## НАДВОР'Е

### 3 верасня

**Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па захаду рэспублікі пройдуць дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску—17—19, Магілёве і Мінску—18—20, Гродна і Гомелі — 19—21, Брэсце—20—22 градусы цяпла.**

**У наступныя двое сутак чакаецца: 4 верасня месцамі па рэспубліцы, 5-га па захаду кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ўначы 8—13, удзень—18—23 градусы цяпла.**

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

